# ВАЕННАЯ ПРЫСЯГА—КЛЯТВА НА ВЕРНАСЦЬ СВАЙМУ НАРОДУ

**Нарэшце ў парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уключаны важнейшыя законапраекты па пытаннях забеспячэння абараназдольнасці нашай маладой дзяржавы—аб абароне, аб узброеных сілах, аб агульным воінскім абавязку і ваеннай службе, аб статусе ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў, аб дзяржаўнай граніцы, аб пагранічных войсках. Такім чынам, ствараецца юрыдычна-прававая аснова для фарміравання ў бліжэйшы час арміі Рэспублікі Беларусь—Войска Беларускага.**

У сувязі з гэтым у шырокіх колах армейскай грамадскасці, патрыятычна настроеных афіцэраў, прапаршчыкаў, ваеннаслужачых звыштэрміновай і тэрміновай службы, што праходзяць службу на тэрыторыі Беларусі, ваеннаабавязаных грамадзян рэспублікі мацнее рашэнне і жаданне прыняць Ваенную прысягу на вернасць беларускаму народу, сваёй Айчыне і дзяржаве. Да гэтага нас абавязвае і той факт, што юнакі — грамадзяне нашай суверэннай рэспублікі апошняга прызыву, якія праходзяць службу на сваёй Радзіме, прыведзены да прысягі, зацверджанай Вярхоўным Саветам 11 студзеня гэтага года.

Многія, прачытаўшы гэтыя радкі, могуць адразу ж мне запярэчыць: навошта з гэтым спяшацца — ёсць жа яшчэ час, ёсць так званы пераходны перыяд тэрмінам два гады, бо многія з нас ужо аднойчы прымалі Ваенную прысягу на вернасць савецкай Радзіме, савецкаму народу і савецкаму ўраду.

Мне, як, дарэчы, і шырокай грамадскасці, знаёмы шматлікія заявы наконт гэтага прафесіянальных ваенных ад малодшых афіцэраў да генералаў і адміралаў высокага ўзроўню, іх аднадумцаў з ліку прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў, ветэранаў узброеных сіл, многіх цывільных асоб — прыхільнікаў былога вялікага Савецкага Саюза, адзінай Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. З павагай ставячыся да ўсяго добрага і слаўнага, дасягнутага старэйшым пакаленнем, высока ацэньваючы гераізм нашых ветэранаў пры сутыкненні з выключнымі цяжкасцямі, што выпалі на іх долю, усё ж хацеў бы выказаць пазіцыю многіх маіх аднадумцаў адносна неабходнасці прыняцця новай Ваеннай прысягі на вернасць сваёй Айчыне і беларускаму народу.

Так, сапраўды, усе мы, ваеннаслужачыя тэрміновай і звыштэрміновай службы, воіны запасу, кожны ў свой час прысягалі на вернасць вялікай краіне, якая размяшчалася на велізарнай прасторы ад Ціхага акіяна да Балтыйскага мора. Так, мы прысягалі, не шкадуючы свайго жыцця, выступіць на абарону савецкага народа, кляліся ў вернасці савецкай Радзіме і савецкаму ўраду (ураду СССР).

Але ці можам мы не бачыць рэалій сённяшняга дня і не разважаць над тэкстам і сэнсам той прысягі, якую прымалі аднойчы? Давайце ўдумаемся ў юрыдычны змест тых радкоў, якія вымаўляў кожны малады воін, уступаючы ў рады ўзброеных абаронцаў Айчыны. І ўсякі разумны грамадзянін зробіць вывад — няма сёння рэальнага сэнсу ў той прысязе. Чаму? А таму, што няма дзяржавы, якой мы прысягалі—Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэта рэальнасць, і прычым абсалютная!

Далей, кожны з нас, прызываючыся ці паступаючы на ваенную службу, уступаў у рады ўзброеных сіл СССР. А такой дзяржаўнай ваеннай структуры ўжо таксама няма.

Мы ўрачыста кляліся захоўваць Канстытуцыю СССР і савецкія законы. Дык ці маем мы права жыць і служыць па законах неіснуючай дзяржавы, калі ёсць Асноўны Закон—Канстытуцыя і рэальна дзеючае заканадаўства незалежнай суверэннай дзяржавы, на тэрыторыі якой мы выконваем свой воінскі абавязак?

У адпаведнасці з раней прынятай прысягай кожны з нас кляўся быць адданым савецкаму народу і савецкаму ўраду. Удумаемся ў сэнс таго, у чым і чаму мы кляліся, і як гэта асэнсоўваецца цяпер. Паняцце «савецкі народ» у адпаведнасці з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам СССР аб'ядноўвала народы пятнаццаці саюзных рэспублік, многіх рэспубліканскіх і абласных аўтаномій, краёў, акругоў і іншых адміністрацыйна - тэрытарыяльных утварэнняў, кожнае з якіх, маючы інтэрнацыянальны характар напаўнення, атрымала ў свой час нацыянальна-асэнсаваную назву.

Так што для нас — грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія выконваюць свой воінскі абавязак і гатовы, як таго патрабуе Ваенная прысяга, быць аддынымі беларускаму народу,— па максімуму засталася адна пятнаццатая частка сэнсу ў клятве на вернасць савецкаму народу.

Аналагічныя разважанні ў поўнай меры могуць быць аднесены і да клятвы на адданасць савецкай Радзіме і савецкаму ўраду.

Такім чынам, зыходзячы з вышэйсказанага, можна зрабіць цалкам абгрунтаваны вывад, што ў ходзе развіцця гістарычнага працэсу сэнсавы і юрыдычны змест Ваеннай прысягі 1960 года ўстарэў і не адпавядае рэальна сфарміраванай рэчаіснасці. З трох галоўных кампанентаў сэнсавага тэксту Ваеннай прысягі любой краіны — народ, Айчына, дзяржава — у той прысязе, якую мы раней прымалі, для нас сёння няма ніводнага.

Падмена ж ці абагульненне высаказначных агульначалавечых паняццяў, што спрабуюць рабіць прыхільнікі вернасці аднойчы дадзенай прысязе, ёсць не што іншае, як увядзенне ў зман не толькі саміх сябе, але і грамадскасці. Ваенны чалавек павінен быць верны народу, часткай якога ён з'яўляецца, Айчыне, рэспубліцы, дзе жыве і служыць, яе ўраду.

Каб пацвердзіць логіку маіх разважанняў, не магу не звярнуцца да гісторыі, на ўроках якой нам вельмі часта даводзіцца вучыцца. Гісторыі як далёкай, так і блізкай. Хацеў бы спыніцца на двух фактах, што маюць дачыненне да прадмета абмеркавання.

У часы Расійскай імперыі ўсе воіны, як нам вядома, прымалі прысягу на вернасць цару і Айчыне. І хоць дынастыя Раманавых царствавала больш за трыста гадоў і пасля бацькі на прастол узыходзіў яго сын, а пасля мужа кіравала дзяржавай жонка — кожнаму новаму самадзержцу, які ўвасабляў дзяржаву, армія прысягала на вернасць, і зноў кожны воін вымаўляў свяшчэнныя словы адданасці сваёй Айчыне.

Возьмем прыклад другі, з найноўшай гісторыі, і звернемся да падзей, што адбываліся ў Германіі ў 1990 годзе. Пасля таго як адбылося аб'яднанне заходняй і ўсходняй частак Германіі ў адну дзяржаву і 3 кастрычніка таго ж года было абвешчана аб існаванні адзінай краіны — Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, на працягу дзесяці дзён усе ваеннаслужачыя былой нацыянальнай народнай арміі ГДР былі прыведзены да прысягі на вернасць нямецкаму народу, Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі і ўраду краіны.

Рэальная ацэнка таго, што адбываецца, логіка мыслення, прыклады з далёкага і нядаўняга мінулага пацвярджаюць правільнасць прапаноў многіх ваеннаслужачых і воінаў запасу — грамадзян Рэспублікі Беларусь аб тым, што прыняцце Ваеннай прысягі на вернасць беларускаму народу і яго дзяржаве — рэальнае патрабаванне часу.

У сувязі з гэтым ёсць сэнс Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь задаволіць патрыятычнае жаданне ваеннаслужачых, разгледзець пытанне і прыняць рашэнне аб прадастаўленні ў бліжэйшы час магчымасці ўсім грамадзянам рэспублікі, што знаходзяцца на ваеннай службе, і воінам запасу прыняць Ваенную прысягу, тэкст якой зацверджаны беларускім парламентам 11 студзеня г. г.

У падрыхтоўцы і аператыўным правядзенні такога важнага і адказнага дзяржаўнага акта, я спадзяюся, прымуць удзел адпаведныя дзяржаўныя органы, кадравыя ваенныя і прадстаўнікі шырокай грамадскасці. Такім чынам, будзе зроблены яшчэ адзін важны крок у справе ўмацавання дзяржаўнасці нашай рэспублікі. Прыняцце Ваеннай прысягі на вернасць свайму народу, Айчыне і дзяржаве — патрыятычны абавязак грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**Аляксандр КУЛЕШ,**
**кандыдат гістарычных навук, падпалкоўнік.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Гісторыя—гэта дакладнасць

КІЕЎ. **(Па тэлефоне).** У «Звяздзе» за 7 сакавіка г. г. надрукавана мая заметка «Высылаць у асобныя краі Саюза ССР...», у якой са спасылкай на газету «Літературна Украіна» прыводзіцца загад аб татальным перасяленні тых жыхароў Украіны, якія жылі на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі. Па характары і змесце дакумента яго можна было б аднесці да сенсацыі, утойваць якую ад чытачоў нельга. Друкуючы тэкст загада, я зыходзіў з таго, што дыпламаваны гісторык, кандыдат гістарычных навук Васіль Марачкін і рэдакцыя газеты «Літературна Украіна» правялі папярэднюю навуковую экспертызу дакумента. Павінен канстатаваць, што мая спасылка на тое, што «праясніцца сітуацыя адносна вышэйпрыведзенага загада», мела пэўную падставу. Падчас спецыяльнай камандзіроўкі ў Кіеў я, аднак, пераканаўся, што «Літературна Украіна» парушыла агульнапрыняты парадак публікацыі дакументаў і дэзінфармавала чытачоў. Я меў магчымасць пераканацца, што ад чытачоў утаілі прынцыпова важную акалічнасць, а менавіта — паходжанне дакумента.

Справа ў тым, што самога дакумента (арыгінала) у былым партархіве, у той справе, на якую спасылаецца В. Марачкін, няма, а ёсць нямецкая лістоўка, дзе ўпамінаецца загад, што быццам бы трапіў у рукі нямецкага камандавання. У канцы лістоўкі так і гаворыцца: «Украінцы! Гэты загад знаходзіцца ў руках нямецкага камандавання». Значыць, паходжанне дакумента не выклікае сумненняў. Існаванне ж загада можа пацвердзіць толькі выяўленне аўтэнтычнага (сапраўднага) дакумента. Яго існаванне не выключана, калі браць у разлік сталінскі генацыд народаў. Не выключана і тое, што падобная задума магла стаць вядомай нямецкім спецслужбам, як гэта іншы раз здаралася. Аднак выдаваць нямецкую лістоўку за арыгінал загада, вядома ж, ні ў якім разе нельга. Шкадую, што міжволі прыняў удзел у дэзінфармацыі чытачоў «Звязды», і прашу ў іх прабачэння.

Падрабязныя тлумачэнні супрацоўнікаў былога партархіва будуць надрукаваны ў бліжэйшым нумары «Літературной Украіны».

**Уладзімір ГУЛЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ПЫТАЛЬНІК!

## Санаторыі пад цэнтры

**Ні для каго не сакрэт, што на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь размешчаны санаторыі былога чацвёртага ўпраўлення. Што з імі будзе зараз? Ці пярройдуць яны ва ўласнасць прафсаюзаў?**

**Ю. РАБЧУК.**
**г. Мінск.**

Міністэрства аховы здароўя ўзяло іх пад сваю апеку. На іх базе ўжо створаны рэабілітацыйна-дыягнастычныя цэнтры як для чарнобыльцаў, так і для воінаў-афганцаў.



## БЯЗВЫХАДНЫХ СІТУАЦЫЙ НЕ БЫВАЕ, АЛЕ ДЗЕ ЎЗЯЦЬ 300 ТЫСЯЧ?

**Я з'яўляюся членам жыллёва-будаўнічага кааператыва, сёлета павінен атрымаць двухпакаёвую кватэру. Але ж яна будзе каштаваць, як мне сказалі, не менш 300 тысяч рублёў. Такіх грошай у мяне няма і, мусіць, ніколі не будзе. Што рабіць?..**

**С. ПЯТРЭНКА.**
**г. Мінск.**

Сапраўды, праблема тут сур'ёзная. Сёння цяжка нават стаць членам ЖБК, бо толькі ўступны ўзнос складае 50—70 тысяч рублёў.

Застаецца адно — крэдыты.

Стала вядома, што Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі звярнулася да Саўміна рэспублікі з прапановай павялічыць крэдыт членам жыллёва-будаўнічых кааператываў да 90 працэнтаў кошту кватэры з выплатай яго ажно на працягу 50 гадоў.

Плата за карыстанне крэдытам прапануецца ў памеры 3 працэнты, а некаторыя катэгорыі насельніцтва — ветэраны вайны, сем'і загінуўшых воінаў, «ліквідатары» — магчыма, будуць вызвалены і ад гэтага.

Застаецца пачакаць канчатковага рашэння ўрада.

## Дзе вы, натарыусы?

**«Чэргі за ўсім і ўсюды—неад'емныя рэаліі сённяшняга дня. Не абышлі яны і натарыяльныя канторы вобласці. Людзі ў іх марнуюцца цэлымі гадзінамі. У чым справа? Няўжо і тут дэфіцыт?»**

**З тэлефоннага званка М. КАВАЛЁВА ў гомельскі карпункт «Звязды».**

На гэта пытанне мы папрасілі адказаць **начальніка ўпраўлення юстыцыі Гомельскага аблвыканкома Якава Кірылавіча АЗЁМШУ.** Вось што ён паведаміў.

— Заўвага чытача справядлівая. У апошні час чэргі ў натарыяльныя канторы не толькі нашай вобласці, але і рэспублікі значна ўзраслі. У перспектыве, калі не зменіцца становішча спраў, яны будуць яшчэ большымі. Чаму? Таму што пры далейшым пераходзе да рынку і прыватызацыі ўласнасці паток дакументаў, якія паступаюць для натарыяльных дзеянняў, вядома ж, павялічыцца. 45 натарыусаў вобласці не змогуць своечасова абслужыць людзей. Гэтай колькасці натарыусаў для Гомельшчыны вельмі мала пры тых аб'ёмах работ, якія яны выконваюць.

Давайце паглядзім на іх цяперашнюю нагрузку. Летась нашы натарыусы зрабілі больш як 170 тысяч розных натарыяльных дзеянняў і далі дзяржаве прыбытак звыш шасці мільёнаў рублёў. На іх жа ўтрыманне пайшло недзе каля 260 тысяч рублёў. Людзі працавалі з перагрузкай, прыхоплівалі свой асабісты час, а зарплата іх зараз яўна нізкая — тысяча рублёў у месяц.

**—Якое ж можа быць выйсце?**

— Многія натарыяльныя канторы працуюць зараз па папярэдніх запісах. А гэта азначае, што чэргі захоўваюцца. Каб іх не было, неабходна павялічыць натарыусам зарплату, зацікавіць іх матэрыяльна. Па-другое, трэба ўжо і аб пашырэнні штатаў натарыяльных кантор паклапаціцца, арганізаваць іх работу ў дзве змены, каб людзі маглі наведвацца да натарыусаў ажно да 20—21 гадзіны. Безумоўна, усе расходы, звязаныя з гэтымі прапановамі, не толькі акупяцца, але і прынясуць дзяржаве прыбытак.

**Гутарыў**
**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## «Саркафаг-2» збудуюць французы

**Не памятаю, у якой газеце была заметка аб тым, што «саркафаг» над чацвёртым блокам Чарнобыльскай АЭС можа ўяўляць радыяцыйную небяспеку пры спалучэнні некаторых акалічнасцей. Так гэта ці не?**

**Л. ШЫШЛАКОЎ.**
**г. Добруш.**

Укрыццё, якое пабудавалі над чацвёртым блокам, на той момант задавальняла. Гарантыю «саркафагу» далі на 30 гадоў. Але праверыць і падмацаваць дакладнымі разлікамі гэту гарантыю цяжка. Таму зараз вырашана ўзвесці над першым «саркафагам» яшчэ адзін, які пры любых абставінах — землетрасенне, паводка, падзенне самалёта — забяспечыў бы надзейную бяспеку навакольнаму асяроддзю ад радыенуклідаў.

«Саркафаг-2» павінен даць гарантыю на 100 гадоў, пакуль нашы нашчадкі падрыхтуюцца да расчысткі руін. Пабудаваць такое ўкрыццё бяруцца спецыялісты французскай фірмы «Бюік», якая, дарэчы, пабудавала 39 атамных блокаў, а зараз завяршае пракладку падводнага тунеля паміж Англіяй і Францыяй. Будаўніцтва новага «саркафага» французы абяцаюць завяршыць за тры гады.

## Пра ўвоз і вываз

**Ці не маглі б вы расказаць аб эканамічных узаемасувязях Беларусі з іншымі краінамі СНД?**

**Д. ХАРЛАМАЎ.**
**г. Касцюковічы.**

Прапануем увазе чытачоў даныя службы інфармацыі Дзяржэканомплана аб увозе ў Беларусь і вывазе з яе важнейшых відаў прадукцыі за мінулы год. Яны добра паказваюць, наколькі глыбока інтэграваная эканоміка Беларусі ў эканамічную прастору былога СССР.

**ВЫВАЗ З БЕЛАРУСІ (1991 год)**

| Назва прадукцыі | Адзінка вымярэння | Заключаны дагаворы на пастаўку (колькасць) | Фактычна пастаўлена (колькасць) | % выканання пастаўкі па дагаворах |
|---|---|---|---|---|
| Мяса і мясапрадукты | тон | 158.102,3 | 160.904,8 | 101,9 |
| Малакапрадукты | тон | 923.014,3 | 865.656,4 | 93,8 |
| Бульба | тон | 184.775,9 | 172.772,4 | 93,5 |
| Трыкатажныя вырабы | тыс. штук | 52.402,6 | 46.231,5 | 88,2 |
| Панчошна-шкарпэткавыя вырабы | тыс. пар | 45.517,3 | 45.067,8 | 99,0 |
| Шпалеры | тыс. умоўн. кавалкаў | 42.944,2 | 42.922,9 | 100,0 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | штук | 73.280 | 155.191 | 211,8 |
| Матацыклы | штук | 161.452 | 161.452 | 100,0 |
| Веласіпеды | штук | 427.474 | 427.511 | 100,0 |
| Тэлевізары | штук | 509.111 | 417.667 | 82,0 |
| Дываны і дывановыя вырабы | тыс. кв. м | 10.370,5 | 10.310,5 | 99,4 |
| Угнаенні калійныя | тон | 2.381.197,0 | 2.281.786,0 | 95,8 |
| Валокны і ніці хімічныя | тон | 339.579,0 | 330.998,9 | 97,5 |
| Шыны для грузавых аўтамабіляў | штук | 1.309.657 | 907.496 | 69,3 |
| Радыятары і канвектары ацяпляльныя | квт. | 816.495 | 579.207,0 | 70,9 |
| Ліфты пасажырскія | штук | 11.191 | 11.191 | 100,0 |
| Аўтамабілі грузавыя | штук | 26,317 | 26.194 | 99,5 |
| Трактары | штук | 76.431 | 68.233 | 89,3 |
| Машыны для ўнясення арганічных угнаенняў | штук | 23.352 | 24.002 | 102,8 |
| Ільняныя тканіны гатовыя | тыс. паг. м | 8.577,0 | 8.723,0 | 101,7 |
| **У Расійскую Федэрацыю** | | | | |
| Мяса і мясапрадукты | тон | 157.842,3 | 160.639,8 | 101,8 |
| Малакапрадукты | тон | 570.738,6 | 513.161,7 | 89,9 |
| Бульба | тон | 84.552,0 | 83.286,9 | 98,5 |
| Трыкатажныя вырабы | тыс. штук | 27.467,8 | 21.346,4 | 77,7 |
| Панчошна-шкарпэткавыя вырабы | тыс. пар | 32.153,0 | 32.020,5 | 99,6 |
| Шпалеры | тыс. умоўн. кавалкаў | 15.516,2 | 15.496,2 | 99,9 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | штук | 25.000 | 71.710 | 286,8 |
| Тэлевізары | штук | 264.011 | 200.353 | 75,9 |
| Веласіпеды | штук | 190.290 | 190.290 | 100,0 |
| Матацыклы | штук | 101.374 | 101.374 | 100,0 |
| Дываны і дывановыя вырабы | тыс. кв. м | 3.707,0 | 3.707,0 | 100,0 |
| Угнаенні калійныя | тон | 619.759,0 | 596.125,0 | 96,2 |
| Валокны і ніці хімічныя | тон | 228.210,0 | 224.064,8 | 98,2 |
| Шыны для грузавых аўтамабіляў | штук | 969.467 | 691.463 | 71,3 |
| Лінолеум | кв. м | 190.114 | 190.114 | 100,0 |
| Радыятары і канвектары | квт. | 217.517 | 129.098 | 59,3 |
| Ліфты пасажырскія | штук | 6.579 | 6.579 | 100,0 |
| Аўтамабілі грузавыя | штук | 19.220 | 19.165 | 99,7 |
| Трактары | штук | 44.047 | 41.148 | 93,4 |

**УВОЗ У БЕЛАРУСЬ (1991 год)**

| Назва прадукцыі | Адзінка вымярэння | Заключаны дагаворы на пастаўку (колькасць) | Фактычна пастаўлена (колькасць) | % выканання пастаўкі па дагаворах |
|---|---|---|---|---|
| Таварная харчовая рыбная прадукцыя | тон | 101.398,0 | 84.588,0 | 83,4 |
| Алей | тон | 34.808,9 | 34.491,7 | 99,1 |
| Цукар | тон | 43.532,8 | 50.208,4 | 115,3 |
| Чай | тон | 1.137,4 | 993,4 | 87,3 |
| Агародніна | тон | 92.058,4 | 51.394,1 | 55,8 |
| Швейныя машыны | штук | 36.997 | 36.224 | 97,9 |
| Пральныя машыны | штук | 169.021 | 123.277 | 72,9 |
| Легкавыя аўтамабілі | штук | 10.515 | 10.005 | 95,1 |
| Сінтэтычныя мыйныя сродкі | тон | 12.197,7 | 12.498,5 | 102,5 |
| Нафта і газавы кандэнсат | тон | 23.068.000,0 | 21.133.892,0 | 91,6 |
| Газ прыродны | млн. куб. м | 8.494,2 | 8.094,6 | 95,3 |
| Вугаль — усяго | тон | 1.453.303,0 | 1.316.982,0 | 90,6 |
| Пракат чорных металаў | тон | 1.868.736,4 | 1.746.384,1 | 93,5 |
| Угнаенні мінеральныя — усяго | тон | 478.671,0 | 467.572,3 | 97,7 |
| Шыны для легкавых аўтамабіляў | штук | 372.549 | 321.523 | 86,3 |
| Шыны для сельскагаспадарчых машын | штук | 692.525 | 617.007 | 89,1 |
| Дзелавая драўніна | куб. м | 459.472,0 | 422.576,0 | 92,2 |
| Папера — усяго | тон | 53.512,1 | 44.416,3 | 83,0 |
| Папера газетная | тон | 2.861,8 | 2.898,8 | 101,2 |
| Аўтамабілі легкавыя | штук | 1.842 | 1.707 | 92,7 |
| Аўтобусы | штук | 2.317 | 1.796 | 77,5 |
| Камбайны збожжаўборачныя | штук | 1.647 | 1.580 | 95,9 |
| Шарсцяныя тканіны | тыс. паг. м | 9.741,4 | 9.545,1 | 98,0 |
| Збожжа | тон | 1.037.193,3 | 589.370,3 | 56,8 |
| Валакно баваўнянае | тон | 56.305,5 | 49.698,5 | 88,3 |
| Шаўковыя тканіны | тыс. паг. м | 21.958,0 | 20.046,3 | 91,3 |

## Аб асартыменце сучасных злачынстваў

**Я чуў, што значна расшырыўся «асартымент» сучасных злачынстваў. Гавораць, што крадуць цяпер нават пустыя слоікі з падвалаў...**

**А. БІРУКОЎ.**
**г. Мінск.**

— Усё правільна, асартымент сённяшніх злачынстваў — пытанне надзвычай актуальнае,— адказвае **інспектар прэс-групы УУС Мінгарвыканкома Сяргей РАЧЫЛА.** — Сапраўды, міліцыя цяпер сутыкаецца не з адным і не з двума выпадкамі крадзяжу самых звычайных пустых слоікаў з падвалаў і іншых падсобных памяшканняў грамадзян. Крадуць, вядома, і поўныя слоікі—з агароднінай і фруктамі, і проста булкі хлеба.

Нядаўна 37-гадовы рабочы завода імя С. Кірава Д. узламаў дзверы суседкі-пенсіянеркі і ўкраў кухонны нож і бутэльку сіропу.

А ў Ленінскі РАУС паступіла паведамленне: з кацельнай Мінскага камвольнага камбіната ўкрадзена вялікая колькасць ртуці з вымяральнага прыбора.

Дадаліся да прадметаў «крымінальнага характару», вядома, купоны. Хоць апошнім часам на іх сталі замахвацца значна радзей. А вось магазінных крадзяжоў пабольшала. І што самае прыкрае — далучаюцца да вопытных рабаўнікоў і падлеткаў... пенсіянеры. Тут ёсць над чым падумаць не толькі праваахоўным органам.

Зусім нядаўна ўкралі аўтамашыну «Волга» з праспекта Ф. Скарыны. Здаецца, нічога дзіўнага, каб не адна акалічнасць. Угоншчыкам аказалася жанчына — Якаўлева, 1955 года нараджэння, якая не справілася з кіраваннем і «пацалавалася» з вуглом аднаго з дамоў.

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### Аб унясенні змяненняў у пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 г. № 10 «Аб нормах кампенсацыі камандзіровачных расходаў»

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Абзацы першы — трэці пункта 1 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 г. № 10 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 1, арт. 8) даць у наступнай рэдакцыі:

«1. Устанавіць, што камандзіраванаму работніку кампенсуюцца:

расходы па найму жылога памяшкання (выключаючы час знаходжання ў дарозе) —у памеры, указаным у прадстаўленых рахунках (квітанцыях), а без прадстаўлення пацвярджаючых дакументаў пры камандзіроўках у г. Мінск і абласныя цэнтры Рэспублікі Беларусь—у памеры 55 рублёў, у іншыя яе гарады і населеныя пункты—45 рублёў, у іншыя дзяржавы—60 рублёў;

сутачныя — у памеры 40 рублёў за кожны дзень камандзіроўкі ў межах Рэспублікі Беларусь і 50 рублёў у іншыя дзяржавы на падставе адзнак у камандзіровачным пасведчанні аб дні выбыцця ў камандзіроўку і дні прыбыцця з яе, уключаючы дні адпачынку і святочныя дні».

2. Гэта пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1 лютага 1992 г.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

6 сакавіка 1992 г. г. Мінск.



**Не на сваіх рабочых месцах у шахтах Салігорска і цэхах руднікоў сустрэлі гэту раніцу прадстаўнікі шматтысячнага калектыву калійшчыкаў. Яны прыехалі на мінскую плошчу Незалежнасці да Дома ўрада, дзе працуе чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На мітынгу, які правялі шахцёры, было паведамлена аб тым, што з 12 сакавіка ўсе шахты прыпынілі адгрузку прадукцыі. Салігорцы патрабуюць ад урада паскорыць заключэнне тарыфнага пагаднення, каб забяспечыць сваім сем'ям выжыванне пры сённяшніх цэнах.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

## Выкінутыя рублі, забытыя кілават-гадзіны

У адной з перадач па Беларускаму тэлебачанню міністр энергетыкі Беларусі В. Герасімаў сказаў, што ён на нядаўняй нарадзе абласных кіраўнікоў і адказных супрацоўнікаў энергетычнай галіны рэкамендаваў раскансерваваць малыя гідраэлектрастанцыі (ГЭС), якія змогуць папоўніць магутнасць Беларускай энергетычнай сістэмы. Прапанова міністра вельмі слушная. Паводле навуковай распрацоўкі Інстытута энергетыкі АН РБ «Гідраэнергетычныя рэсурсы Беларусі» (пад рэдакцыяй кандыдатаў тэхнічных навук П. Гацілы і М. Мурашкі, 1957 г.), спыненыя 156 малых ГЭС змогуць выпрацаваць амаль 80 мільёнаў кілават-гадзін энергіі.

На вялікі жаль, ажыццявіць рэкамендацыю пакуль што немагчыма. З усяго, што засталося пасля так званага «кансервавання» (дакладней будзе сказаць разбурэння), даюць энергію сёння толькі пяць ГЭС агульнай магутнасцю каля 5 тысяч кілават і працуюць некалькі млыноў. Падлічым цяпер, колькі каштавала для энергетыкі і эканомікі рэспублікі безгаспадарчасць колішніх адказных супрацоўнікаў гэтай найважнейшай галіны. Кошт аднаго ўведзенага кілавата магутнасці ГЭС па тым часе (1950—1960 гг.) складаў у сярэднім 9 тысяч рублёў. Такім чынам, больш чым 20 гадоў былі выключаны з абарачэння 180 мільёнаў рублёў дзяржаўных сродкаў. А колькі патрабавалася і патрабуецца штогод на замену гэтых забытых 80 мільёнаў кілават-гадзін? Дзе ўзяць гэтыя страчаныя сродкі і ці магчыма з такім гаспадараннем увайсці ў нармальны (бездэфіцытны) рынак? Адказу на гэтыя пытанні няма ні ў артыкуле «Энергетыка з відам на штору» («Звязда» ад 28 верасня 1991 г.), ні ў інтэрв'ю з міністрам энергетыкі Рэспублікі Беларусь В. Герасімавым «Трэба прывыкаць быць ашчаднымі» («Звязда» ад 25 студзеня г. г.).

Быць ашчадным і цярплівым нашаму народу не прывыкаць. Але ж як доўга і што робіцца ці што трэба рабіць для таго, каб зменшыць тэрміны чакання?

З папярэдніх разважанняў вынікае, што трэба аднавіць разбуранае. Тым больш, што на большасці ГЭС захаваліся неразбураныя плаціны, дамбы, вадаскіды, будынкі ГЭС, кошт якіх складае да 65 працэнтаў ад усяго кошту электрастанцый. Трэба таксама вызначыць месцы для будаўніцтва новых, больш магутных ГЭС. Аднавіць ці рэканструяваць, дзе ёсць магчымасці і патрэба, вадзяныя млыны і ветравыя рухавікі. Паводле даных вышэйпамянёных даследаванняў, магутнасць ГЭС на рэках Рэспублікі Беларусь, на якіх магчыма іх пабудаваць, складае 550 тысяч кілават з сярэднегадавой выпрацоўкай 2,5 мільярда кілават-гадзін. Безумоўна, гэта не шмат у параўнанні з цеплавымі электрастанцыямі. Затое гэта экалагічна чыстая энергія. Апрача таго, пабудова новых ці рэканструкцыя закінутых ГЭС будзе спрыяць папаўненню вёскі будаўнікамі і спецыялістамі - эксплуатацыйнікамі.

Гідраэнергетычнае выкарыстанне рэк рэспублікі эфектыўнае толькі ў комплексе з іншай гаспадарчай дзейнасцю: рыбаразвядзеннем, водазабеспячэннем, развядзеннем вадаплаўнай птушкі, барацьбой з затапленнямі тэрыторый у паводкі, развіццём адпачынку і спорту... Усё гэта разам будзе спрыяць падзешаўленню будаўніцтва. Водная прастора невялікіх па плошчы затаплення тэрыторый будзе добра ўпісвацца ў створанае прыродай экалагічнае асяроддзе і нават у нечым упрыгожваць яго.

**Іван ФІЛІПОВІЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук, дацэнт кафедры гідратэхнічнага і энергетычнага будаўніцтва Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.**

